© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 6(114) ◈ 10 лютага 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***2 ЛЮТАГА СПОЎНІЛАСЯ 155 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА.***

●

***У МАЛАДЗЕЧНЕ АДКРЫЎСЯ МЕНСКІ АБЛАСНЫ ДРАМАТЫЧНЫ ТЭАТР.***

●

**У МЕНСКІМ ПАЛАЦЫ МАСТАЦТВАЎ АДКРЫЛАСЯ ВЫСТАВА НАРОДНАГА МАСТАКА БЕЛАРУСІ ГАЎРЫЛЫ ВАШЧАНКІ.**

●

***«БЕЛАРУСКАЙ МАЛАДЗЕЖНАЙ» СПОЎНІЛАСЯ 30 ГАДОЎ.*** *Віншуем супрацоўнікаў радыёстанцыі з юбілеем і жадаем поспехаў на ніве Адраджэння.*

●

**У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ** адбылася прэзентацыя кнігі М. Гарэцкага «Гісторыя беларускае літаратуры», якая была напісана пісьменнікам у 20-ыя гады і выдадзена ў Вільні.

●

***«КАМАНДА Б. КЛІНТАНА НЕ ЗБІРАЕЦЦА МЯНЯЦЬ ПАЛІТЫКУ АДНОСНА БЕЛАРУСІ»*** *— так у час прэс-канферэнцыі з нагоды першай гадавіны адкрыцця амерыканскага пасольства ў Беларусі заявіў пасол ЗША Дэвід Х. Суорц. Амерыка хоча бачыць Беларусь эканамічна моцнай і незалежнай дзяржавай.*

●

***ДОБРУШСКАЯ ПАПЯРОВАЯ ФАБРЫКА «ГЕРОЙ ПРАЦЫ» ЗАКЛЮЧЫЛА КАНТРАКТ*** *на збыт гатовай прадукцыі з дзвюма польскімі фірмамі ў Варшаве і Лодзі. 5 тысяч тон паперы мае намер закупіць і балгарская кампанія «Трыумвірат». А ў нас усё яшчэ гавораць, што не хапае паперы.*

●

**СПЕЦЫЯЛІСТЫ ЭКАНАМІЧНЫХ ІНСТЫТУТАЎ ГЕРМАНІІ, АНАЛІЗУЮЧЫ РОЗНЫЯ АСПЕКТЫ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ БЕЛАРУСІ, ЗРАБІЛІ ВЫСНОВУ,** што належнага прастору для развіцця рыначных узаемаадносін у рэспубліцы не існуе.

●

**У ТАЛАЧЫНЕ НА ЗАВОДЗЕ «БЕЛЭКС» РАСПРАЦАВАНЫ ТРЫ МАДЭЛІ БЕЛАРУСКАГА ЭКСКАВАТАРА.** Летась было выпушчана 39 машын. У гэтым годзе плануецца 200. Палавіна экскаватараў рэалізуецца ў нашай краіне, частка ў краінах СНД і ў Кітаі. Вядуцца перамовы пра продаж экскаватараў Аргенціне, Чылі і іншым краінам.

●

***З 20 ПА 26 СТУДЗЕНЯ 1993 ГОДА НА РЫНКУ БЕЗНАЯЎНАЙ ВАЛЮТЫ РБ*** *было прададзена 2 523 261 долар ЗША і 498 747 нямецкіх марак.*

●

**У МЕНСКУ ПА ВУЛІЦЫ КАЛЬЦОВА Ў РЭКАНСТРУЯВАНЫМ БУДЫНКУ БЫЛОГА ДЗІЦЯЧАГА САДА СПРАВІЛА НАВАСЕЛЛЕ ПАСОЛЬСТВА ІНДЫІ Ў РБ.**

*У суполках ТБМ: насустрач з'езду*

## ЁСЦЬ ЧАМУ ПАВУЧЫЦЦА Ў ЛІДЧАН

***Суполка ТБМ імя Ф. Скарыны ў Лідзе ўзнікла як адна з першых арганізацый. А зараз у Лідзе 110 першасных суполак і юнацкіх секцый. Дзейнічаюць яны ў розных установах горада — у школах, тэхнікумах, вучылішчах, дзіцячых садках, на прамысловых прадпрыемствах.***



Дзеля больш зладжанага кіраўніцтва гарадская рада ТБМ мае наступныя камісіі: арганізацыйна-прапагандысцкую, моўна-адукацыйную, краязнаўчую, камісію па зровавым і гукавым афармленні навакольнага асяроддзя. Камісіі ўзначальваюць Міхась Аляксандравіч Ёрш, Тамара Іванаўна Крыпец, Марыя Юзэфаўна Саўкевіч, Алесь Іванавіч Судар. Гэта людзі дасведчаныя, ініцыятыўныя. Падштурхоўваць у працы нікога не трэба. Таму аўтарытэт лідскія тэбэзмаўцы ў горадзе заваявалі вялікі. Невыпадкова мечавіта ад гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны яе кіраўнік — выкладчык мясцовага педагагічнага вучылішча М. Мельнік абраны дэпутатам Гродзенскага абласнога Савета народных дэпутатаў.

У Лідзе, ды і ведаць па ўсёй рэспубліцы, ведаюць пра стварэнне ў горадзе помніка Францішку Скарыне (аўтар скульптуры — Валерый Янушкевіч). Актывісты ТБМ сабралі на ажыццяўленне гэтай задумы больш аднаго мільёна рублёў. Умовы сённяшняй інфляцыі, вядома, прыніжаюць гэтую суму, але яшчэ ўчора сабраць гэтыя грошы было не лёгка. Адкрыццё помніка запланавана на май 1993 года.

Значную ўвагу лідчане надаюць стварэнню шырокай сеткі курсаў па вывучэнні роднай мовы. У прыватнасці, яны ўжо дзейнічаюць пры гарвыканкаме, на заводах «Оптык», «Лакафарба», абутковай фабрыцы, у музычным вучылішчы, індустрыяльным тэхнікуме, у шэрагу іншых арганізацый. Рада гарадской арганізацыі ТБМ сумесна з гарадскім фондам моладзі «Мара» арганізавала платныя курсы па вывучэнні беларускай мовы для кіраўнікоў прадпрыемстваў, устаноў, начальнікаў аддзелаў кадраў, бухгалтарскіх работнікаў.

Безумоўна, тон ва ўсім задае гарадская рада. Кожнае э яе пасяджэнняў носіць канкрэтны характар. Якія ж пытанні становяцца тэмай гарачых дыскусій? Вось толькі кароткі іх пералік: аб вопыце работы першасных суполак ТБМ па ўжыванні беларускай мовы, аб правядзенні гарадскога свята беларускай кнігі «Дзень добры, кніга Беларусі!», аб правядзенні вечара, прысвечанага 500-годдзю з дня нараджэння Ф. Скарыны, аб выніках праверкі завода «Оптык», чыгуначнага і аўтавакзала па выкананні ў іх калектывах Закона аб мовах, аб прапагандзе беларускай дзяржаўнай і нацыянальнай сімволікі ў Лідзе і інш.

Сур'ёзнае вырашэнне надзённых праблем патрабуе, каб следам за крокам тэарэтычна-арганізацыйным справе дапамагала нешта яшчэ. Так, лідскія тэбэзмаўцы недарма дбаюць пра стварэнне шырокай грамадскай думкі ў абарону нацыянальнага Адраджэння, дзеля пашырэння ўжытку беларускай мовы.

*(Заканчэнне на с. 2).*

***Статут СНД падпісалі толькі 7 краін, у тым ліку і РБ. Агульную заяву аб Статуце падпісалі ўсе кіраўнікі. Прынята рашэнне аб заснаванні Міждзяржаўнага банка. Падпісана пагадненне аб міждзяржаўным рэгуляванні рынку каштоўных папер.***

◆

***Пасля бурных дэбатаў Вярхоўны Савет адмяніў сваю амаль паўтарагадовай даўнасці забарону на дзейнасць КПБ — КПСС. Мамёсць партыі вырашана не вяртаць. Здань камунізму зноў будзе блукаць па Беларусі.***

## *І будуць свае Ньютоны*





НА ЗДЫМКУ: урок фізікі ў Крашынскай беларускай школе (Баранавіцкі раён) вядзе настаўнік Генадзь Захаравіч Дземідзенка.

Фота Міхася ХАМЦА.

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

*Але!*

# ТЫМ НЕ МЕНШ, ПЫТАННІ ДА ГЕНЕРАЛА УСХОПЧЫКА ЗАСТАЮЦЦА

Пасля надрукавання ў «НС» (№ 51, 1992) артыкула «Генерал Усхопчык некага баіцца?» прэс-цэнтр Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь распаўсюдзіў у сувязі з гэтым у сродках масавай інфармацыі заяву. Супрацоўнікі рэдакцыі пачулі яе ў перадачы «Радыёфакта», але з газет яе апублікавала, здаецца, толькі «Во славу Родины». Думаем, і ў гэтай газеце журналісты кемлівыя і ўмеюць уважліва чытаць тэксты, але ж, відаць, спрацавала ведамасная падпарадкаванасць. Ну, а «радыёфактаўцы», хутчэй за ўсё, «Наша слова» не чыталі, але яшчэ не перахварэлі на старое: не ўдумваючыся ў змест, распаўсюджваць інфармацыю, калі яна «спушчана» афіцыйнай інстанцыяй.

А паведаміў прэс-цэнтр Мінабароны, што «Наша слова» апублікавала артыкул, сэнс і змест якога «в лживой форме (?) искажают роль генерала Усхопчика Владимира Никитовича в вильнюсских событиях в январе 1991 года». Ну і, канешне ж, носяць «откровенно оскорбительный характер и направлены на дискредитацию должностного лица Вооруженных Сил Беларуси». Цытуем па-расійску, як у газеце «Во славу Родины» надрукавана, каб, крый Бог, зноў нечага не сказіць. Адно нейк суцяшае, што прэс-цэнтр заявіў і такое: «Нашему слову» «следовало бы опубликовать этот материал не позже 9 октября 1992 года». Таму што потым сталі вядомыя вывады дэпутацкай камісіі па расследаванні прычынення генерала Усхопчыка «к событиям в Вильнюсе». Тым не менш, усё-такі «следовало бы». Дзякуем і за гэта. Што да дэпутацкай камісіі, то пакуль няма цвёрдай упэўненасці ў тым, што праз нейкі час не ўзнікне новая (скажам, з дэпутатаў наступнага склікання), калі генерал справядліва не разбярэцца з раскрадальнікамі вайсковай маёмасці, а яго самога будуць абараняць ад грамадскасці гэтак, як зараз.

Але ў дадзеным выпадку галоўнае заключаецца ў тым, што мы ніяк не аспрэчвалі вывадаў і цяперашняй камісіі наконт ролі генерала Усхопчыка ў крывавых віленскіх падзеях. Мы паўтарылі толькі тое, што прызнаў сам генерал: так, ён выканаў аддадзены яму ганебны загад. Аднак ён і цяпер не пажадаў назваць тых, хто канкрэтна яму такое загадаў. Заканамерна ўзнікае пытанне: чаму? Вось жа нават магутны міністр абароны Расіі П. Грачоў не стаў ухіляцца ад канкрэтнага адказу на падобнае пытанне (і ад сустрэчы з журналістамі, само сабой). Ён прама сказаў, што калі на наступны дзень пасля крывавай бані ў Вільні маршал Язаў з трыбуны Вярхоўнага Савета СССР адрокся ад свайго непасрэднага ўдзелу ў віленскім ваенным путчы, «ён фактычна падставіў тых, хто выконваў яго загад». Генерал-маёр Усхопчык пазбягае сустрэч з беларускімі журналістамі (а значыць, не жадае адказваць на пытанні беларускай грамадскасці) і ў той жа час шануе маскоўскіх ваенных журналістаў. Яны яму бліжэй? А як быць нам, калі людзі задаюць гэтыя пытанні — наконт «должностных лиц»? Як быць беларусам у Літве, у якіх пытаюцца ўжо летувісы — каго ў вас там на Беларусі назначаюць «должностными лицами»?

Нарэшце, генерал-маёр Усхопчык публічна зневажаў афіцэраў, якія імкнуцца адрадзіць у войску нацыянальную самасвядомасць, патрыятызм, без чаго армія, як мы ўжо казалі, становіцца проста небяспечнай для незалежнага існавання дзяржавы, народа. Зноў-такі: чаму? І яшчэ цэлы шэраг падобных пытанняў, якія варта было б высветліць. Інакш падазрэнні, недавер у народзе будуць толькі павялічвацца, як бы гэтага некаму ні хацелася пазбегнуць, уключыўшы зону замоўчвання. Ёсць адзіны шлях — сустрэчы з журналістамі, адказы на пытанні, нават калі яны ў нечым крыўдныя ці здаюцца такімі. Думаецца, прэс-цэнтр Мінабароны якраз і павінен быў бы гэтаму спрыяць, садзейнічаць. У агульнанародных інтарэсах. Бо сапраўды трэба, каб нарэшце армія і народ сталі адзінымі.

А наконт папроку, што артыкул надрукаваны без подпісу, то яго можна лічыць рэдакцыйным — ён папярэдне абмяркоўваўся ўсім калектывам рэдакцыі. І вельмі прыдзірліва, каб без патрэбы не пакрыўдзіць некага.

Эрнэст ЯЛУГІН.

## *Весткі з Віленшчыны*

*Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь аказана фінансавая дапамога кафедры беларусазнаўства Віленскага педагагічнага універсітэта ў памеры 200 тыс. руб. Беларускі гуманітарна-адукацыйны цэнтр (дырэктар — У. Колас) на частку гэтых грошай набыў і ўжо даставіў у Вільню тэхнічныя сродкі навучання.*

* * *

*Студэнты беларускага аддзялення Віленскага педагагічнага універсітэта сумесна з клубам аматараў беларускай творчасці «Сябрына» арганізавалі для дзетак-беларусаў калядное свята. На свяце гучалі калядныя песні, разбучваліся беларускія народныя гульні, вясёлыя скокі разам з каляднікамі, якія завіталі ў госці з казою і вучоным мядзведзем. Самымі спрытнымі, вясёлымі і кемлівымі аказаліся дзеткі беларускага класа, які вядзе Галіна Сівалава.*

* * *

*14 студзеня бягучага года ў Віленскім педагагічным універсітэце адбыўся ўстаноўчы сход Таварыства беларускай школы. Яно будзе працягваць культурныя і асветніцкія традыцыі былой арганізацыі ТБШ, якая існавала ў Вільні ў міжваенны перыяд. Мэта аднаўлёнай арганізацыі — адраджэнне беларускага школьніцтва на Летуве. Арганізацыя аб'ядноўвае найперш настаўнікаў, бацькоў і вучняў беларускіх навучальных устаноў. Адна з важнейшых задач Таварыства — аднаўленне славутай Віленскай беларускай гімназіі і пашырэнне сеткі беларускіх пачатковых класаў.*

*На ўстаноўчым сходзе быў прыняты Статут ТБШ, абрана рада ў складзе 7 чалавек і рэвізійная камісія.*

г. Вільня. Л. ПЛЫГАЎКА.

*Да ведама*

## Мала нам каналаў «Астанкіна» і «Расія»?

У друку з'явіліся паведамленні, што ў хуткім часе жыхары Менска змогуць глядзець праграму Санкт-Пецярбургскага тэлебачання. 31 студзеня ў Калодзішчах стаў працаваць перадатчык магутнасцю 1 кілават. Распрацоўкі, звязаныя з прыёмам і трансляцыяй Санкт-Пецярбургскага тэлебачання, ажыццяўляе прадпрыемства «Менскія тэлевізійныя інфармацыйныя сеткі».

## І так мільярды, і так мільярды...

Урон, нанесены нашай рэспубліцы ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, у цэнах на 1 студзеня 1992 года ацэньваецца сумарнай лічбай за перыяд з 1986 па 2015 год (прагноз) у 600 мільярдаў рублёў. Праўда, ёсць і іншыя падлікі, па якіх урон ацэньваецца ў памеры ад 400 да больш за 700 мільярдаў долараў.

## Чаго-чаго, а банкаў хапае...

На 1 студзеня 1993 года ў Рэспубліцы Беларусь было зарэгістравана 25 камерцыйных банкаў і 439 іх філіялаў. Па камерцыйных банках і іх філіялах на душу насельніцтва Беларусь займае ў СНД першае месца.

◆ У суполках ТБМ: насустрач з'езду

# Ёсць чаму павучыцца ў лідчан

(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).

Імкнучыся да гэтага, актывісты ТБМ часта выступаюць у мясцовым друку, не забываюцца на шырокія магчымасці ўплыву на свядомасць людзей радыё і тэлебачання. Аргументавана, абгрунтавана ўступаюць у спрэчку з будзённым мысленнем, з пагардлівым стаўленнем да роднай мовы М. Мельнік, Ф. Кардаш, А. Судар, Т. Зянюкевіч, М. Саўкевіч, М. Баяровіч і іншыя.

І паступова праяўляецца плён гэтай працы. Менавіта дзякуючы сумесным намаганням гарадской рады і сяброў ТБМ, з дапамогай аддзела народнай адукацыі сёння ў Лідзе ў 12-ці з 16-ці сярэдніх школ усе першыя і другія класы — беларускамоўныя. І яшчэ важная дэталь: 30 садкоў з наяўных 37 таксама сталі беларускамоўнымі. У многіх школах беларускамоўнымі з'яўляюцца трэція і чацвёртыя класы. Праўда, пакуль не ўсе... Але з той руплівасцю і энергічнасцю, якія ўласцівыя тэбээмаўцам з Ліды, дамагчыся, паверце, можна яшчэ шмат.

**М. БАЛАЧАНСКІ, В. ВІЛЬТОЎСКІ.**

◆◆◆◆

*Напрыканцы 1992 года Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны звярнулася з заявай да старшынь райвыканкамаў, каб атрымаць ад іх кароткую справаздачу аб дзейнасці раённых арганізацый ТБМ.*

*З гэтага нумара «Наша слова» пачынае знаёміць сваіх чытачоў з інфармацыяй (скарочанай, бо ў лістах шмат паўтораў), якая прыйшла з райвыканкамаў на адрас Рэспубліканскай Рады ТБМ імя Ф. Скарыны. На жаль, адгукнуліся не ўсе.*

◆◆◆◆

### Круглае

**Нягледзячы на намаганні райвыканкама, Круглянская раённая арганізацыя ТБМ пакуль не існуе. Створаны ў 1991 годзе аргкамітэт пастаўленай перад ім задачы не выканаў. У раёне выпісана 45 экз. газеты «Наша слова».**

Нам. старшыні райвыканкама М. АСІПЕНКА.

### Шаркоўшчына

**У Шаркоўшчынскім раёне ў 1989 годзе створана ТБМ. Суполкі таварыства існуюць ва ўсіх сярэдніх школах раёна, У школах, установах раёна, райвыканкаме выканана праграма курса «Вучымся гаварыць па-беларуску». Члены суполак удзельнічаюць у напісанні аб'ектыўнай гісторыі нашага краю — кнігі «Памяць».**

Старшыня Шаркоўшчынскага райвыканкама Л. КЛАКОЎСКІ.

### Жабінка

**Жабінкаўская раённая суполка ТБМ створана 12 снежня 1989 года. Яна аб'ядноўвае каля 70 сяброў ТБМ з 12 першасных арганізацый. Узначальвае яе паэт Васіль Сахарчук. У раённай газеце з 1990 года выходзіць тэматычная старонка раённай суполкі ТБМ «Радавод». У 1990—1992 гадах выпушчана 16 такіх старонак. Ва ўсіх школах горада, раёна створаны першыя беларускамоўныя класы. У шэрагу школ не толькі першыя, але і другія, і трэція. Дзве школы — Азяцкая сярэдняя і Старасельская васьмігадовая поўнасцю перайшлі на выкладанне прадметаў па-беларуску. На беларускай мове вучацца 459 вучняў першых класаў гарадскіх і вясковых школ. У раёне пакуль што толькі 11 падпісчыкаў «Нашага слова».**

Нам. старшыні райвыканкама С. АНТАНОВІЧ.

### Вілейка

**У Вілейскім раёне ў кастрычніку 1989 года была створана раённая арганізацыя ТБМ, якая налічвае 42 першасныя суполкі з ахопам каля 4 тысяч чалавек. Створаны раённы музей «Вілейшчына літаратурная», вядзецца перавод на беларускую мову справаводства, наглядна-агітацыйнага і мастацкага афармлення і г. д. У раёне выпісваюць 51 экземпляр «Нашага слова».**

Старшыня райвыканкама Я. ЯЗІНСКІ.

### Лельчыцы

**Дзякуючы Лельчыцкай арганізацыі ТБМ і органам народнай адукацыі раёна, з 29 сярэдніх і 10 няпоўных сярэдніх школ усе, акрамя 2 (і ў гэтых школах першыя класы беларускамоўныя), беларускія. Патрэбна дапамога ў забеспячэнні вучняў, школ і бібліятэк мастацкай літаратурай, літаратурай па гісторыі і культуры нашай рэспублікі.**

Старшыня ТБМ Лельчыцкага раёна Святлана МЯДЗВЕДЗЕВА.

### Расоны

**У склад Расонскай арганізацыі ТБМ уваходзіць 14 першасных суполак, якія аб'ядноўваюць 520 чалавек. Усе спецыялісты калгасаў і саўгасаў, прадпрыемстваў і арганізацый пры сярэдніх і няпоўных сярэдніх школах раёна займаліся па 80-гадзіннай праграме па авалоданню роднай мовай згодна з рашэннямі райвыканкама ад 17.05.1989 г. і ад 20.03.1991 г. 31 верасня 1992 г. рашэннем райвыканкама ўсе дашкольныя ўстановы пераведзены на беларускую мову выхавання і навучання. Ва ўсіх школах раёна, пазашкольных установах справаводства пераведзена на беларускую мову. Праведзена атэстацыя настаўнікаў, для якіх валоданне беларускай мовай у адпаведнасці з Законам аб мовах з'яўляецца абавязковай. У раёне адна рускамоўная школа — Расонская сярэдняя школа імя П. М. Машэрава. Але ўжо на працягу трох гадоў тут адкрываецца па адным першаму беларускамоўнаму класу. З 1993/94 навучальнага года тут усе першыя класы будуць беларускамоўнымі. У раёне назвы населеных пунктаў, шыльды на ўстановах, прадпрыемствах гандлю аформлены на беларускай мове.**

Старшыня раённага ТБМ В. ФЕДАРАВА.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# НЕ ПЕРАТВАРЫЦЬ ВЕРУ Ў «ПАДВОР'І» СУСЕДНІХ ДЗЯРЖАЎ

Тое, што кіраўніцтва Беларускай, а ў сапраўднасці Рускай праваслаўнай царквы абазначыла сябе ў межах экзархата (у перакладзе з грэчаскай мовы «падвор'е») як «пастпрэдства» чужой дзяржавы ў межах суверэннай Беларусі, сумнявацца не прыходзіцца. Пра тое сведчыць хаця б упартае нежаданне прывесці ў адпаведнасць з узноўленай беларускай дзяржаўнасцю аўтакефальнае (самастойнае) хрысціянска-праваслаўнае забеспячэнне пастырства на Беларусі. Бо гэта ж абавязковы чыннік існавання незалежнасці народа. А святкаванне 1000-годдзя хрышчэння Беларусі, якое кіраўніцтва праваслаўнай царквы на Беларусі абвясціла як юбілей аднаго праваслаўя? Царкоўнае кіраўніцтва заўсёды рабіла і зараз робіць закіды ў бок таго, што праваслаўная царква Беларусі павінна падпарадкоўвацца кананічна і дагматычна РПЦ, падобна падпарадкаванню нацыянальных цэркваў каталіцкага свету Ватыкану.

Адначасова робяцца захады, каб пазбегнуць дэрусіфікацыі царкоўных набажэнстваў. Матывуецца тое традыцыяй выкарыстання рускае мовы як сакральнай (патаемнай, святой). Прычым гэта падаецца так, быццам усе праваслаўныя цэрквы не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі паслугуюцца наогул царкоўнаславянскай, а не рускай мовай. Ну, а яшчэ — «неадольным» жаданнем саміх вернікаў карыстацца такой мовай. Пры ўсім гэтым кіраўніцтва экзархата скарыстоўвае лозунг: «На каком языке хотят прихожане, на таком пастырь и должен вести проповедь». Здавалася б — звышдэмакратызм.

Тым часам іерархі праваслаўнай царквы нібыта пускаюць «самапасам» цэлы народ на Беларусі выбіраць мову набажэнстваў. І вось дзіва: беларускую (дадзеную ім Богам!) мову ў якасці богаслужэбнай «захацелі» (ды і то спарадычна) толькі вернікі прыхода Петрапаўлаўскай царквы ў Менску!

А мо трэба шчыра прызнацца, што толькі аднаго (!) святара праваслаўная царква на Беларусі падрыхтавала да пачэснай працы — дапамагчы вернікам звяртацца да Бога на роднай мове?

А як жа ўладыка Філарэт, ці прамовіў хоць адзін раз за 15 год душпастарства па-беларуску? Прычым, ён чалавек з талентам.

Давайце яшчэ звернем увагу на наступнае: адным з адрозненняў гістарычнага лёсу беларусаў ад суседзяўславянаў (расійцаў і палякаў) з'яўляецца тое, што ні адна канфесія ні гістарычна, ні культурна, ні тэрытарыяльна не пакрывае сабой паняцце «беларус». Гістарычна і геаграфічна склалася так, што на нашых землях ці то ў часавай паслядоўнасці, ці адначасна заўсёды існавала шматканфесійнасць. А гэта прыводзіла да таго, што на беларускіх землях немагчыма было ўсталяванне стэрэатыпа «этнічнасць — канфесійнасць», без адмаўлення існавання беларусаў як этнасу, нацыі. Устойлівы стэрэатып «канфесія — нацыя» заўсёды вельмі пазітыўна спрыняўся да гістарычнага адраджэння народаў, іх вызвалення. Дастаткова ўспомніць: «праваслаўны — рускі», «каталік — паляк», «іудзей — яўрэй» — ва ўсе часы іх існавання.

У гэтым мы яшчэ больш пераканаемся, калі ўспомнім пра дзейнасць каталіцкага кліру. І ў гістарычным часе і цяпер. У гісторыі беларусаў каталіцызм займае незвычайнае становішча. Недаацэньваць гэтага нельга. Дастаткова сказаць, што XVII—XIX стагоддзі характарызаваліся развіццём беларускасці ва ўлонні каталіцызму. Але мы не павінны забываць і таго, што палітычныя колы Польшчы, у тым ліку і каталіцкія пастыры заўсёды імкнуліся рознымі сродкамі накінуць польскасць беларусам: «каталік — паляк» і ўсё тут. Гэта назіраецца ў Беларусі і зараз.

Адзін час складвалася ўражанне, што пры пашырэнні сферы дзейнасці касцёла ён будзе выконваць пачэсныя функцыі духоўнага і патрыятычнага ўзгаднення народа. Але хутка высветлілася, што іерархі касцёла на Беларусі не спрыяюць увядзенню беларускай мовы ў набажэнствах, сведчыць ужо факт штучнага падзелу менскіх храмаў на «польскія» і «беларускія». Прычым у пройгрышным стане ва ўсіх адносінах апошнія — горшае месца знаходжання, гістарычная каштоўнасць, архітэктурныя вартасці будынкаў. Гэта нібыта зроблена з-за таго, што большасць каталікоў-палякаў не захоча ісці ў «беларускі» касцёл. Але ж дзейнасць касцёла Св. Роха ў Менску сведчыць пра іншае: памяшканне касцёла (ва ўсякім разе, у святочныя і нядзельныя дні) не ўмяшчае ўсіх жадаючых.

Зусім невядома, дарэчы, як іерархам удалося правесці адбор беларусаў і палякаў. Што тут узята за аснову: паселішчы, мова, звычкі, асаблівасці характару і паводзін? Але ж яны вельмі падобныя ва ўсіх каталікоў Беларусі. Ці за аснову ўзята «польскасць касцельная», якая гістарычна накідвалася касцёлу з мэтаю апалячвання беларусаў?

Абмяжуемся адным прыкладам, як на практыцы рэалізуецца, бярэцца пад увагу волевыяўленне вернікаў наконт мовы богаслужэння. Прадэманстравана гэта было падчас святой імшы, якую правёў у Кафедральным касцёле арцыбіскуп К. Свентак у калядны дзень. Віталі высокага госця выключна на польскай мове, казанне ён рабіў зноў жа па-польску, за выняткам аднаго разу ў аб'ёме некалькіх сказаў, зачытаных па-беларуску. Так стымулюецца (свядома ці падсвядома) фарміраванне феномена польскай каталіцкасці на Беларусі. Адзін з двух ксяндзоў, якія асісціравалі арцыбіскупу, да мовы беларускай зусім не прычыніўся.

(Заканчэнне на с. 4).

*Патрыятычнае выхаванне*

# Крокі да нацыянальнага войска

*Ва Узброеных сілах Беларусі апошнім часам робяцца захады, накіраваныя на пашырэнне беларускасці. Вызначана задача праз пэўны перыяд надаць дзяржаўнай мове рэспублікі статус рабочай мовы людзей у пагонах. Выкананню пастаўленай мэты спрыяе і тое, што сёння абсалютную большасць прызыўнікоў складаюць ураджэнцы Беларусі, для якіх пры ўсіх хібах папярэдняга «інтэрнацыяналістычнага» выхавання родная слова чужым не з'яўляецца. Каб далучыць салдат, сяржантаў, прапаршчыкаў і афіцэраў да здабыткаў нацыянальнай беларускай культуры, са студзеня гэтага года ў часцях і падраздзяленнях уведзены абавязковы курс гуманітарнай падрыхтоўкі (вывучэнне беларускай гісторыі, мовы і некаторых пытанняў сацыяльнай псіхалогіі).*

*Як на месцах практычна ажыццяўляецца патрыятычнае выхаванне вайскоўцаў? Што ў вайсковых калектывах прыйшло на змену адыёзным палітзаняткам? Каб адказаць на такія пытанні, аўтар гэтых радкоў наведаў ардэнаноснае злучэнне імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.*

У штабе выконваючы абавязкі намесніка камандзіра па выхаваўчай рабоце і кадрах падпалкоўнік У. М. Макараў прапанаваў карэспандэнту газеты непасрэдна папрысутнічаць на чарговых занятках па гуманітарнай падрыхтоўцы ў любой часці злучэння. Выбар выпаў на воінскі калектыў, якім камандуе падпалкоўнік А. Ф. Ніценка. З кіраўніцтвам батальёна пазнаёміў маёр Л. А. Елісееў са штаба злучэння — афіцэр, за плячыма якога ўжо 15 гадоў службы (10 — на Беларусі, дзе ў дадатак да вышэйшай вайсковай адукацыі завочна скончыў філасофскае аддзяленне гістфака сталічнага універсітэта, а зараз вучыцца на юрыдычным факультэце БДУ). Дарэчы, у службовым кабінеце маёра — вельмі аўтарытэтнае, грунтоўнае выданне аб мінуўшчыне Бацькаўшчыны — «Нарыс гісторыі Літоўска-Рускай дзяржавы да Люблінскай уніі ўключна» (1915 г.) М. Любаўскага, якое сёння знойдзеш далёка не ў кожнай навуковай бібліятэцы.

Аб ходзе гуманітарнай падрыхтоўкі ў часці падрабязна расказаў намеснік камандзіра па выхаваўчай рабоце капітан А. Ю. Абходскі. У прыватнасці, ён паведаміў, што ў зімовы перыяд для афіцэраў і прапаршчыкаў вывучэнне беларускай мовы прадугледжана працягам 28 вучэбных гадзін (16 — лекцыі, 12 — практычныя заняткі). Такая ўвага засваенню мовы афіцэрамі і прапаршчыкамі надаецца таму, што менавіта сярод іх значную частку складаюць тыя, хто нарадзіўся, вучыўся, служыў па-за межамі Беларусі, а любы камандзір у войску — перш за ўсё выхавацель, які штодзённа кантактуе з падначаленымі, сам праводзіць з імі заняткі. У якасці выкладчыкаў мовы ў часць запрашаюцца навукоўцы з акадэмічных інстытутаў і менскіх ВНУ. Адбываюцца тут сустрэчы таксама з дзеячамі нашай нацыянальнай культуры. Так, летась у госці да воінаў батальёна прыходзілі народны пісьменнік Васіль Быкаў і вядомы паэт Уладзімір Паўлаў. Камандаванне батальёна выказала падзяку рэдакцыі «Нашага слова» за тэматычную старонку газеты «Вучымся», якая дапамагае асабоваму складу аваладаць беларускай гутарковай мовай. Што да салдат і сяржантаў часці, то, як падкрэсліў капітан А. Ю. Абходскі, яны ўжо прыступілі да планавага вывучэння ўступных тэм па гісторыі Беларусі. Зірнуўшы на гадзіннік, капітан запрасіў у клас, дзе якраз цяпер пачаліся заняткі.

Дарогай карэспандэнту паказалі батальённыя памяшканні рознага прызначэння, ён мог ставіць любыя пытанні і атрымліваў вычэрпныя адказы і тлумачэнні. Склалася перакананне, што ў часці да выхаваўчай работы, якая грунтуецца на новых падыходах і прынцыпах і ўсё больш арыентуецца на патрыятычнае нацыянальнае выхаванне, ставяцца вельмі сур'ёзна. Загадам камандзіра, напрыклад, катэгарычна забаронена зрываць салдат і сяржантаў з заняткаў па гуманітарнай падрыхтоўцы на гаспадарчыя работы. Усе шыльдачкі на дзвярах — на беларускай мове, над закратаваным уваходам у пакой узбраення, ля тумбачкі дняволы, у іншых месцах вока радуе беларуская дзяржаўная сімволіка. У канцылярыі, службовых памяшканнях афіцэраў — беларускія падручнікі, моўныя дапаможнікі, слоўнікі, выразкі з беларускіх газет. Увогуле, усё памяшканне батальёна густоўна аформлена, падзелена лакіраванымі дошкамі на невялікія, утульныя адсекі. Яно зусім не адпавядае ўсталяванай трафарэтнаму паняццю «казарма».

Былы «ленінскі пакой». Цяпер — месца адпачынку, пераўтворанае ў клас для заняткаў. Хоць засваенне гісторыі Беларусі сёлета абавязковае толькі для салдат і сяржантаў, але ў класе разам з некалькімі дзесяткамі зусім маладых хлопцаў — афіцэры і прапаршчыкі батальёна. Яны вывучаюць нашу мінуўшчыну па жаданні, бо разумеюць, што неўзабаве самі стануць займацца з уласнымі падначаленымі. Заняткі па тэме «Старажытныя грамадства і ранняе сярэднявечча на Беларусі» вядзе памочнік начальніка штаба батальёна капітан Л. Б. Лях (колішні выпускнік БДУ). Ён падае матэрыял на добрай беларускай мове, цікава, даходліва і займальна, прывязваючы, у прыватнасці, летапісныя звесткі з глыбокай даўніны да сучаснай беларускай тапанімікі. Капітан шырока карыстаецца выказваннямі Ф. Скарыны, Ф. Багушэвіча, іншых карыфеяў нашай нацыянальнай культуры. Аўдыторыя слухае ўважліва, афіцэры і прапаршчыкі занатоўваюць пачутае, рыхтуючыся, відаць, да заўтрашняга самастойнага выкладання. На стале кіраўніка — не толькі першы выпуск вучэбнага дапаможніка для вайскоўцаў, які нядаўна выпусціў Інстытут гісторыі Акадэміі навук Беларусі сумесна з упраўленнем выхаваўчай работы Міністэрства абароны нашай рэспублікі, а і «Кароткая гісторыя Беларусі» Вацлава Ластоўскага. Праўда, нават бліскучага валодання разнастайнымі гістарычнымі фактамі часта аказваецца недастаткова, каб захапіць аўдыторыю. Неабходна вялікая любоў да мінулага роднай Бацькаўшчыны. У капітана Л. Б. Ляха такая любоў ёсць, таму і заняткі ідуць удала.

Пасля ў гутарцы з карэспандэнтам капітан Лях паведаміў, што з беларускай гісторыяй у войску пакуль не так усё гладка, як можа ўявіцца новаму чалавеку. Дадзены батальён да таго ж — адна з лепшых часцей у злучэнні, тут на ўсё накладзены пэўны глянец. Асноўная праблема гуманітарнай падрыхтоўкі ў тым, што большасць салдат і сяржантаў, на жаль, не валодаюць жывым беларускім словам, хоць і разумеюць мову. Яны амаль зусім не ведаюць нашай гістарычнай мінуўшчыны. Зрэшты, войска не вінавата ў гэтым, а выправіць хібы школьнай адукацыі і ўсяго папярэдняга выхавання за паўтара гады салдацкай службы надзвычай складана. У войску ж родная гісторыя дагэтуль ніколі не выкладалася, таму гістарычныя карты, напрыклад, даводзіцца выпрошваць у суседняй сярэдняй школе, няма таксама сучасных тэхнічных сродкаў навучання. Але галоўнае — вострa недахоп афіцэраў, якія могуць выкладаць па-беларуску. Таму ў пераважнай частцы груп заняткі па гісторыі яшчэ праводзяцца на рускай мове (пра гэта, дададзім, карэспандэнту паведамілі ва ўпраўленні выхаваўчай работы Міністэрства абароны напярэдадні камандзіроўкі ў злучэнне). Крытычна выказаўся капітан на адрас згаданага ўжо дапаможніка па гісторыі для вайскоўцаў. Такую думку падзяляюць і іншыя афіцэры, спадзеючыся, што наступныя выпускі дапаможніка будуць больш удалымі і карыснымі.

На прыкладзе батальёна, які мы наведалі, бачна, што першыя крокі да пашырэння беларускасці ў войску, а гэта значыць, да стварэння сапраўды нацыянальных Узброеных сіл, робяцца. Але каб убачыць на яве іх плён, трэба працаваць і працаваць.

**Мар'ян ВІЖ.**



© PDF: Kamunikat.org 2012
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆ *ДА 125-ГОДДЗЯ КАРУСЯ КАГАНЦА* ◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆◆

# Лічыўся бацькам беларускага руху

10 лютага 1868 года ў г. Табольску ў сям'і высланага з Беларусі за ўдзел у паўстанні 1863 года Карла Кастравіцкага нарадзіўся сын Казімір. Неўзабаве Кастравіцкім дазволілі вярнуцца на радзіму. Яны спыняюцца ў вёсцы Засулле каля Стоўбцаў. Бацька раптоўна памёр, і хлопчык гадаваўся з айчымам. Пачатковую адукацыю ён атрымлівае дома, затым вучыцца ў Менскім гарадскім вучылішчы, потым займаецца ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, ваяння і дойлідства.

Яшчэ ў юнацкія гады ў сэрцы Казіміра, не зважаючы на нязносную беднасць і атрыманае калецтва, у выніку якога ён застаўся гарбуном, спеў і шырэў пратэст супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту. Гэта знаходзіць адлюстраванне ўжо ў першых творах К. Кастравіцкага (псеўданім Карусь Каганец), якія друкаваліся ў прагрэсіўных газетах «Минский листок» і «Северо-Западный край». Ужо тады ён, паводле слоў Сяргея Палуяна, быў «моцна працяты духам беларушчыны і Беларусі». Крыху пазней Максім Багдановіч адзначыў, што творы Каганца маюць «рэзка індывідуальную фізіяномію», што ад іх вее старадаўняй, дахрысціянскай Руссю.

«Дух Беларусі» не толькі прысутнічаў у творчасці Каганца, а і ўвасабляўся ў культурна-асветніцкай і палітычнай дзейнасці гэтага апантанага чалавека, пра якога Максім Гарэцкі напісаў: «Ён лічыўся духоўным бацькам усіх працаўнікоў беларускага руху».

У 1903 годзе мы бачым Каруся Каганца разам з Цёткай сярод стваральнікаў Беларускай сацыялістычнай Грамады. 28 лістапада 1904 года Карусь Каганец звярнуўся да міністра ўнутраных спраў Расійскай імперыі князя Святаполка-Мірскага з хадайніцтвам дазволіць «выдаваць літаратурна-гаспадарчую газету на беларускай мове пад назвай «Палессе». Неабходнасць газеты абумоўліваецца тым, што «ліцвіны, палякі, яўрэі маюць свае кнігі і газеты, а чым жа беларусы горш за іх?» Прашэнне, як і наступнае, накіраванае Казімірам Карлавічам у Пецярбург праз год, было «пакінута без вынікаў».

Рэвалюцыйны 1905 год Каганец праводзіў у гушчыні падзей. У канцы года за распаўсюджванне антыўрадавых пракламацый сярод сялян пад Койданавам яго схапілі, пяць месяцаў пратрымалі за кратамі Менскага турэмнага замка. Пасля выхаду на волю Каганец служыць лясніччым паблізу Клічава, наступнай зімой выкладае маляванне ў віленскай рамеснай школе, дзе арганізуе канспіратыўны гуртох.

Менавіта ў гэты перыяд Каганец з натхненнем працуе. Ён піша цыкл лірычных вершаў («Сонейка прыгрэла», «Салавейка мілы», «Жаваронча малы» і інш.). Казімір Карлавіч ананімна выдае «Беларускі лемантар, або Першая навука чытання», перакладае на родную мову навукова-папулярную «Гутарку аб небе і зямлі», піша для дзяцей, афармляе вокладку «Другога чытання для дзяцей беларусаў» Я. Коласа, выношвае сюжэт лепшага свайго драматычнага твора — сатырычнага вадэвіля «Модны шляхцюк».

За рэвалюцыйную агітацыю цэлы год (з чэрвеня 1910) Каганец прасядзеў у Менскім турэмным замку. Адбываў пакаранне разам з Я. Коласам. Пасля турмы Каганец толькі ў 1912 годзе змог уладкавацца на службу. Ён працягваў пісаць вершы, блізкія да песень, пачутых ад навакольных сялян, збіраў і апрацоўваў фальклор, маляваў...

Памёр Каганец у маі 1918, пахаваны на сціплых сельскіх магілках вёскі Навасёлкі, што ў Дзяржынскім раёне Менскай вобласці.

Калі ж гаварыць аб значэнні пісьменніка-дэмакрата Каруся Каганца ў беларускай нацыянальнай літаратуры, то не будзе перабольшваннем сказаць, што ён з годнасцю працягваў лепшыя традыцыі Багушэвіча і стаў яркім, самабытным папярэднікам вялікіх Купалы і Коласа.

**М. В.**

# Віцебскія пратэстанты шануюць родную мову




Добрым падарункам для ўсіх, хто цікавіцца Бібліяй, стала хрысціянскае выданне «Ліст да цябе». Надзвычай прыемнай навіной з'яўляецца тое, што ініцыятыва перакладу на беларускую мову належыць абшчыне віцебскіх хрысціян «Збор у імя Ісуса Хрыста». Германскае пратэстанцкае выдавецтва «Добрая вестка» фундавала ўсе грашовыя выдаткі і ўзяло на сябе дабрачынную місію паліграфічнага выканання. Брашура мае прывабны дызайн, 64 старонкі тэксту з ілюстрацыямі, цудоўна скампанавана і лёгка чытаецца. Падаем назвы некаторых раздзелаў: «Што казалі вялікія людзі пра Біблію», «Як дайшла да нас Біблія», «Крытыка Бібліі», «Біблія — самая цікавая кніга сусвету». Карысныя хрысціянскія павучанні, змешчаныя ў брашуры, будуць з удзячнасцю чытацца як маладымі, так і сталымі людзьмі. Асабліва ў наш цяжкі жыццёвы час, калі ўсё жывое і разумнае шукае мудрасці Госпада.

Пратэстанцкая абшчына «Збор у імя Ісуса Хрыста» ўтварылася ўсяго гады са два таму з дапамогай германскай хрысціянскай місіі. Віцебскія хрысціяне стараюцца авалодаць беларускай мовай, чытаюць пропаведзі, моляцца і спяваюць гімны па-беларуску. Выданне брашуры «Ліст да цябе» адрэдагавана выкладчыкам беларускай мовы Анатолем Канапелькам. Мяркуецца ў бліжэйшы час паўтарыць другое выданне павялічаным накладам, каб распаўсюдзіць добрую евангельскую працу па ўсёй Беларусі. Няма сумнення, што ўсе беларускія хрысціяне сустрэнуць звернуты да іх ліст з пачуццём шчырай удзячнасці.

**Л. ЛІСТАПАД.**




# НЕ ПЕРАТВАРЫЦЬ ВЕРУ Ў «ПАДВОР'І» СУСЕДНІХ ДЗЯРЖАЎ

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 3).*

Адкуль яму было вядома, што так пажадалі вернікі? Ды ніхто не спытаў, ніхто не ўзяў пад увагу, што тут, у касцёле на беларускай зямлі, акрапалітыкай не існуе. У тым ліку праваслаўная і каталіцкая. Прыярытэт палітыкі ў царкоўнай справе да нядаўняга часу праяўляўся нават у «атэістычнай» унітарнай савецкай дзяржаве. Тая дэманстратыўна адварочвалася ад го, нават робяцца спробы абгрунтавання гэтага праз адпаведныя газеты.

Гэта ж цалкам адносіцца і да праваслаўнай царквы, якая ўвогуле не мае адзінага цэнтра (накшталт Ватыкана) і характарызуецца сціслаю

мя этнічных палякаў, могуць быць «выпадкам» і беларусы. Ці было вырашана зноў пабальшавіцку: усіх кааптаваць у палякі?

Дарэчы, калі абмяжоўваць любы аналіз духоўнасці на Беларусі двухканфесійнасцю, можна недаравальна спрасціць 400-гадовы адрэзак нашай гісторыі, на працягу якога афармлялася тое ж уніяцтва. А яно — адзін з прыкметных варыянтаў стабілізацыі грамадства праз пераадоленне дагматычна-канфесійных разыходжанняў. Такім чынам, богаслужэнне на беларускай мове ўзмацняла і нацыянальную еднасць. І дарэмна лічыць Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі мітрапаліт Філарэт, што то быў усяго сродак абвастрэння міжканфесійных дачыненняў на Беларусі, нейкі штучны, непраўдзівы шлях да адзінства («ЛіМ» за 8.01.1993 г.). Уплыў уніяцтва на беларускую пачуццёвасць тлумачыцца тым, што ў працэсе свайго развіцця як вынік каталіцка-праваслаўнага сімбіёзу яно прыпыняла экспансію праваслаўна-расійскага і каталіцка-польскага зместу празелетызму (перацягванне ў іншую веру) і было па сутнасці ідэалагічным забеспячэннем перспектыў выжывання беларусаў.

Жаданне бачыць ва уніяцтве толькі палітычны змест сцвярджае агульнапрынятае: ні адна царква (не блытаць з рэлігіяй) ніколі па-за рэлігіі і царквы, але ж пры гэтым ствярала рэжым найлепшага спрыяння іменна Рускай праваслаўнай царкве. Царкве-лідэру, як яна зараз настальгічна абазначаецца мітрапалітам Філарэтам. Адчуваецца, што гэтае лідэрства кіраўніцтва царквы жадае захоўваць і ў суверэннай Беларусі.

Абвінавачванне уніяцтва ў палітызацыі ёсць не што іншае, як адмаўленне стэрэатыпа «уніяцтва — беларускасць». Да таго, як беларускія землі ў 1772 г. былі далучаны да Расіі, уніяцтвам было ахоплена каля 80 працэнтаў насельніцтва, якое потым сілаю было пераведзена ў праваслаўе дзяржаўнымі, палітычнымі і збройнымі сродкамі з мэтаюператварэння «единоверных» у «единокровных».

Дзяржава паўсюдна імкнецца выкарыстаць магчымасць з дапамогаю асноўнай царквы ўзмацняць нацыянальны дух: адзінства мовы, культуры і г. д. Польскага ў Польшчы, партугальскага ў Партугаліі і г. д. У выпадку ж, калі гэтага не адбываецца, то царква спрыяе разбурэнню нацыянальнай еднасці. Экспансія духоўнасці іншага народа ёсць перадумова палітычнага і эканамічнага захопу. Яскравым прыкладам гэтага з'яўляюцца хаця б спробы вывешвання польскіх дзяржаўных сімвалаў у касцёлах на тэрыторыі суверэннай Беларусі. Больш тасувяззю паміж царкоўнай традыцыяй і нацыянальнай спецыфічнасцю. Таму больш чым дзіўна гучаць словы іерархаў БПЦ аб тым, што яны і надалей жадаюць захаваць юрысдыкцыю РПЦ, не імкнуцца рэалізаваць уласную адказнасць за будучыню праваслаўнага народа Беларусі. І надалей будуць узгадняць і чакаць указанняў ад «старэйшай сястрыцы» як ідэалагічна-духоўнага інстытута суседняй краіны. Калі так будзе развівацца душпастырская дзейнасць кіраўніцтва царквы і касцёла, то зусім хутка мы станем сведкамі яшчэ большага расхістання беларускай дзяржаўнасці і варажнечы ў грамадстве. На сённяшні дзень усе адносіны паміж дзяржавай і царквою павінны рэгулявацца законам з пазіцыі выключна свецкай дзяржавы. Пры гэтым закон павінен браць пад неаслабны кантроль тыя бакі дзеяння царкоўных аб'яднанняў, якія ўздзейнічаюць на фарміраванне ці дэфармацыю нацыянальнай свядомасці, культуры, мовы, гісторыі, абароны — неабходных і абавязковых атрыбутаў існавання незалежнай дзяржавы, а не зводзіць увесь складаны вектар адносін паміж дзяржавай, грамадствам і царквой да нядаўняй памяці рэлікта — упаўнаважанага па справах рэлігіі.

**М. АНЦЫПОВІЧ,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

*● Да ведама*

## Беларускім афіцэрам — беларускія пагоны

Большасць членаў Камісіі па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета пагадзілася з прапанаваў галоўнага распрацоўшчыка праектаў пагонаў афіцэраў беларускага войска С. Саркісава, каб выкарыстоўваць у якасці знакаў адрознення чатырохкутную зорку. Зорка серабрыстага колеру і нясе ў сабе выяву крыжа, нагадваючы традыцыйную беларускую кафельку.

## На мяжы не спяць

**У 1992 годзе беларускімі пагранічнікамі затрымана 489 парушальнікаў дзяржаўнай мяжы і канфіскавана кантрабанды на суму звыш 30 мільёнаў рублёў.**

## Ёсць руда — будзе і жалеза

У рэспубліканскім друку з'явіліся звесткі, што Беларусь мае залежы жалезных руд, якія ацэньваюцца ў сотні мільёнаў тон. Калі нашы прадпрыемствы будуць іх выкарыстоўваць у разліку 5 мільёнаў тон жалеза ў год, руды павінна хапіць на многія дзесяткі гадоў.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

# Вучымся!

## УРОК ТРЭЦІ

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на выдзеленыя літары і іх спалучэнні:

загáд — кладка — кладцы
выгляд — бярозка — бярозцы
прыгарад — калодка — калодцы
брыгада — дошка — дошцы
бегатня — кніжка — кніжцы
загартаваць — дарожка — дарожцы
дагаварыць — загадка — загадцы

2. Прачытайце верш «Споведзь маладога байца» Пятра Прыходзькі. Растлумачце правілы вымаўлення галосных і зычных у вылучаных словах.

Я нарадзіўся позна для *паходаў*,
Якія ў бітвах апаліў *агонь*.
Дваццаты век васьмідзесятым *годам*
Лёг на маё *плячо*, на мой *пагон*.

Я для *бацькоўскай* вытрымкі *народжан:*
*Вучоба* ў полі — як сапраўдны бой.
І мне ў паходзе лепшы спадарожнік —
Марш у *сугуччы* з баявой трубой.

Ці ў *пойдзень* жнівўны, ці марозным лютым
Іду праз *вецер* палявых дарог,—
Я неразлучны са сваім статутам,
Дзе *чуцен голас* баявых трывог.

Гудуць мае *натруджаныя ногі*,
*Зайжды* кароткі мой салдацкі сон.
Мне ж *бачны* ў сне бясконцыя *дарогі*
І купал неба, а не парасон.

Маё юнацтва *ўсё ў хадзе* няспынннай,
І я на свой не наракаю лёс,
Бо я — салдат, я — вартавы *краіны*,
Што *хоча* ўсім *бяз'ядзерных* нябёс.

### *Замацаванне вывучанага*

1. Прачытайце прыказкі і прымаўкі. Які загаловак да іх лепш падыходзіць, «Поры года» ці «Народны каляндар»? Прапануйце, калі ёсць, свой варыянт загалоўка і абгрунтуйце адказ.

Студзень — году пачатак, а зіме — палавіна. Студзень зямлю студзіць. Студзень мяце — ліпень залье. Калі ў лютым трываюць маразы, лета гарачае. Люты халодны і сухі — жнівень гарачы. Пытаецца люты, ці добра абуты. Люты вады падпусціць, а сакавік падбярэ. Завірухі і мяцелі ў лютым адгудзелі. Ні ў сакавіку вады, ні ў красавіку травы. Красавік з вадою — май з травою. Мокры май — жыта, як гай. У травень будзь мужык упраўен. Ліпень косіць і жне, доўга спаць не дае. У жніўні і верабей піва наварыць. Кастрычнік зямлю балоціць, а лес залоціць.

2. Адказжыце на пытанні (паводле артыкула З. Сіцько «Славянскі каляндар»):

— Ад чаго залежала жыццё нашых далёкіх прашчураў?
— Кім было для іх сонца?
— Што пакладзена ў аснову старажытнага славянскага календара?
— Якім сімвалам людзі абазначалі сонца?
— Дзе ў наш час можна ўбачыць выявы роўнаканцовых касых крыжоў?

3. Прачытайце верш «Травень» Васіля Жуковіча і аднайменны артыкул Здзіслава Сіцько.

### Травень

Трэці месяц веснавы
у сваё ўступіў правы.
Травень, ты — вясны вяршыня.
Зяе сонца ў небе сінім.

.........................

Замірае нават вецер
перад яблынямі ў цвеце!
Лес пяе — пачуйце самі —
розных птушак галасамі.

Ад світання да змяркання —
Трэлі, шчэбет, кукаванне.
А якія ў лесе краскі!
Паглядзіце, калі ласка.

Колькі зёлак разнастайных,
сціплых, чыстых, жыццядайных!
Травень. Месяц веснавы.
Многа квецені, травы.

*Вайскоўцам пра родную мову*

Травень — беларуская народная назва пятага месяца. Як бачыце, трапнае слова прыдумалі нашы прашчуры. Яно не толькі гаворыць пра іх кемнасць, назіральнасць ды розум, але і само ўяўляецца словам-помнікам. Яго, адзінае ў свеце, трэба захаваць і аберагаць, не замяняць словам «май». Да таго ж «май» у нас мае зусім іншае значэнне. Так даўней называлі маладыя дрэўцы, пераважна бярэзінкі, якія на Сёмуху прынoсілі з лесу. На Віцебшчыне май ставілі вакол хат, на агародах. Лічылася, што май аберагае пасевы, спрыяе росту збажыны, ярыны (агародніны).

Вучоныя лічаць, што гэта адзін са старажытных абрадаў аберагальнай магіі, звязанай з ушанаваннем раслін. Беларусы, як бачым, захавалі вельмі старажытны культ багіні Маі, магчыма, яшчэ з таго часу, калі былі ў так званай індаеўрапейскай супольнасці. Паводле старажытнай індыйскай міфалогіі, Майя — добрая магічная моц. А ў індуісцкай рэлігійнай філасофіі Мая — прамаці Сусвету. Падобны культ мелі даўней італійцы.

Таксама і ў міфалогіі старажытных цюркаў багіня Майя ўвасабляла жаночы, зямны пачатак і плённасць.

На аснове прачытаных тэкстаў зрабіце кароткія паведамленні паводле плана:

* Назва пятага месяца года па-беларуску.
* Росквіт прыроды ў траўні.
* Вытокі слова *май*.

4. Назавіце ўсе месяцы года. Пабудуйце дыялог, выкарыстаўшы іх назвы на выбар.

## Тлумачэнне новай тэмы: Гук ў ( у нескладовае). Правапіс слоў з літарай ў

Гук **ў** утвараецца:

1. На месцы гука **в** пасля галосных:

а) на канцы слова: *сыноў, салдатаў;*

б) пасля галосных перад зычнымі ў сярэдзіне слова: *даўно, праўда.*

2. На месцы гука **л**:

а) у сярэдзіне слова пасля галоснага перад зычным: *доўгі, шоўк* (па-расійску: долгий, шёлк);

б) у канцы дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду: *ехаў, страляў* (параўн. *ехалі, стралялі).*

**Заўвага.** Гук **л** не пераходзіць у гук **ў**:

а) калі пасля **л** узнікае беглы галосны: *іголка — іголак, палка — палак;*

б) у пазычаных словах: *балкон, алфавіт, полк;*

в) у канцы назоўнікаў: *пасол, пыл.*

3. Гук **ў** можа ўзнікаць з галоснага **у**:

а) у пачатку слова: *яму ўдалося, яго ўгаварылі;*

б) у прыназоўніках, калі папярэдняе слова канчаецца на галосны: прыбыў **у** полк — прыбылі **ў** полк.

Літара **ў** пішацца пасля галосных:

а) у пачатку слова, калі папярэдняе слова канчаецца на галосную: на *ўзгорку*, ва *ўстанове;*

б) у сярэдзіне слова: *здароўе, заўважыць;*

в) у канцы дзеясловаў прошлага часу мужчынскага роду адзіночнага ліку: *вартаваў, перадаў;*

г) пасля злучка, калі папярэдняя частка слова канчаецца на галосную: *паўночна-ўсходні, хлопцы-ўмельцы.*

### *Замацаванне новай тэмы*

1. Спішыце тэкст, растлумачце правапіс слоў з літарай **ў**.

Першы танк павольна набліжаўся да супрацьлеглага берага. Ён ішоў плаўна і проста.

Адкінуўшы шлем, Якавенка насцярожана сачыў за ім. Гэты танк павінен быў высветліць галоўнае: пройдзе гэты — пройдуць астатнія.

Вось нарэшце машына ўжо на тым баку. Пасля гэтага, упэўніўшыся, што прайсці можна, лейтэнант паглядзеў на балота больш прыхільна.

2. Змяніце словы паводле ўзору і запішыце іх, падкрэсліце галосныя, пасля якіх стаіць **ў**.

*Думалі — думаў, гаварылі — ..., чыталі — ..., трымалі — ..., ехалі — ..., пераскладалі — ... .*

*Аловак — алоўкі, авёс — ... , паплавок — ... , астравок — ... , шавец — ... , кравец — ... .*

*Кусты — кустоў, дубы — ... , арэхі — ... , камандзір — ... , касцюмы — ... , боты — ... .*

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё гутарковай мовы

### *Словы і звароты ветлівасці*

Добры дзень! Дзень добры! — прывітальны зварот пры сустрэчы са знаёмымі і незнаёмымі раніцай або ўдзень.

Здароў! Прывітанне! — зварот да блізкага знаёмага пры сустрэчы.

Вітаю Вас! — зварот у сувязі з якім-небудзь урачыстым выпадкам.

Віншую Вас! Сардэчна віншую Вас! — зварот з выпадку дня нараджэння або ў сувязі з дасягненнем поспехаў.

Добры вечар! — прывітальныя словы пры сустрэчы ўвечары.

Як мáецеся? Як жыццё? — зварот пасля прывітання пры пачатку размовы са сваякамі або добрымі знаёмымі.

#### Звароты

Спадар, спадарыня (з указаннем пасады або прозвішча) — зварот у афіцыйных абставінах.

Паважаны (глыбокапаважаны) спадар (з указаннем пасады або прозвішча) — ветлівы афіцыйны зварот.

#### Просьбы

Калі ласка! — словы ветлівай просьбы.

Зрабіце ласку! Будзьце ласкавы! — ветлівая просьба зрабіць якую-небудзь паслугу.

#### Запрашэнні

Сардэчна запрашаем! — запрашэнне ўвайсці куды-небудзь або наведаць каго-небудзь.

Дазвольце Вас запрасіць (на вальс, польку і інш.) — зварот таго, хто запрашае на танец.

Не забывайце нас! Не забывайцеся на нас! Наведвайцеся часцей! — кажуць пры развітанні сваякам або блізкім людзям, якія жывуць далёка.

#### Зычэнні

Заставайцеся здаровы! Бывайце здаровы! Добрага Вам здароўя! — так пажадана гаварыць, адыходзячы.

Усяго добрага (найлепшага)! Шчасліва! — развітальнае зычэнне таму, хто адыходзіць.

Шчасліва вярнуцца! — зычаць таму, хто выпраўляецца ў вялікую дарогу.

Дабранач! Добрай ночы! — так кажуць, адыходзячы з дому позна ўвечары.

Хлеб-соль! Хлеб ды соль! — зычаць гаспадарам, калі яны абедаюць.

Смачна есці! — зычаць знаёмым, калі яны абедаюць (снедаюць, вячэраюць) у сталовай, у дарозе.

Памагай Бог! Бог помач! Спор у працы! — кажуць таму, хто працуе.

#### Прабачэнні

Даруйце (прабачце, выбачайце), калі ласка! — так просяць прабачэння ў таго, каму прычынілі непрыемнасць.

Не крыўдуйце! — прабачэнне за малапрыемныя, але справядлівыя словы.

Няма за што! — словы, якімі адказваюць на падзяку.

*Культура мовы*

## Заробак, адробкі

Дзеяслоў *рабіць* (гістарычна паходзіць ад слова *раб*) мае шмат прыстаўкавых утварэнняў: *адрабіць, вырабіць, зарабіць, перарабіць, нарабіць* і г. д. Ад іх утварыліся (нульсуфіксным спосабам ці з дапамогаю пэўных суфіксаў) назоўнікі *выраб, адробак, заробак* і г. д. Слова *работа* таксама ад дзеяслова *рабіць* (утварылася з дапамогаю суфікса *-от-а*). Ад яго ў расійскай мове ўтварыўся дзеяслоў *работать* (адпаведнік беларускага *рабіць*).

Формы *заработак, адработ* і *адработак*, якія падае «Беларуска-рускі слоўнік» 1988 г., небеларускія ўтварэнні (у нас няма дзеясловаў *заработать* і *адработать*), а пазычанні з расійскай мовы, дзе яны ўтварыліся ад згаданых дзеясловаў *(отработать — отработок, отработки; заработать — заработок, заработки*). Як неўласцівыя беларускай мове трэба кваліфікаваць і прыметнікавыя ўтварэнні ад іх: *адработачны, заработачны* (на месцы натуральных у беларускай мове *адробкавы* і *заробкавы*). У натуральным маўленні пачуеш: *«Які заробак, такая і заробкавая плата»*. «Русско-белорусский словарь» 1982 г. (т. 1, с. 279) у беларускай частцы падае два словы: *заработак* і *заробак*, але апошняе кваліфікуе як гутарковае. Зразумела чаму — яно не супадае з расійскім *заработок*, хоць базавае для іх *заработать* перакладае словамі *зарабіць, запрацаваць*. Дык адкуль тады гэтае *заработак?*

Лексеме *отработать* у беларускай мове таксама адпавядае *адрабіць, адпрацаваць* (т. 1, с. 634). Ранейшыя слоўнікі, менш падлеглыя расійскамоўнай экспансіі, не так шырока скіраваныя на зліццё моваў, падавалі два адпаведнікі да рас. *отработок*. Напрыклад, «Русско-белорусский словарь» 1953 г. (с. 156) дае *адробак* і *адработак* як раўнапраўныя да рас. *отработок*.

Такім чынам, натуральнымі, унармаванымі мусяць быць прызнаныя ў беларускай літаратурнай мове свае, заканамерныя ўтварэнні: *адрабіць, зарабіць, заробак, заробкі;* формы *адработ, адработак, адработкі, заработак, заработкі* не маюць у беларускай мове сваіх каранёў і стаяць па-за межамі літаратурнай нормы.

**Павел СЦЯЦКО.**



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



# БЕЛАРУСЫ: ПАЧАТАК НОВАГА ЧАСУ, ХРЫСЦІЯНСТВА (IX—XIII стагоддзі)

*(Заканчэнне. Пачатак у № 5).*

Там сабраў вакол сябе кніжнікаў, перапісваў і распаўсюджваў кнігі. Яго актыўная дзейнасць, талент прапаведніка, адукаванасць выклікалі зайздрасць мясцовага духавенства, абурэнне манахаў і ўплывовых асоб Смаленска. Аўрамій цярпліва пераносіў пакуты, здзекі, пакуль да яго не прыйшло сапраўднае ўсеагульнае прызнанне. У «Жыціі» Аўрамія створаны новы тып хрысціянскага героя, які канфліктуе не з язычнікамі, а з фанатычным натоўпам адзінаверцаў. Яны адмоўна ставяцца да асоб, якія ў інтэлектуальных адносінах стаяць вышэй за іх. З «Жыція Аўрамія Смаленскага» мы даведваемся, што ўжо ў XII ст. у Смаленску існавалі школы, перапісваліся кнігі, маляваліся іконы. У «Жыціі» прысутнічаюць беларускія словы: «наставник», «злодіи», «потреба», «велми» і інш.

Сярод разнастайных драўляных збудаванняў старажытнага горада рэзка вылучаліся сваім выглядам нешматлікія будынкі каменнай манументальнай архітэктуры. Каменная архітэктура XI—XII стст. у Беларусі прадстаўлена амаль выключна пабудовамі культавага характару — саборамі і цэрквамі, якія звычайна ўзводзілі самыя таленавітыя майстры. Унутраны і знешні выгляд цэркваў рабіў на людзей моцнае ўражанне. Старажытныя дойліды выбіралі месца для ўзвядзення храмаў на берагах водных шляхоў, на ўзвышшах, каб яны былі добра бачны здалёк, каб служылі маякамі для падарожнікаў. Храмы і асабліва саборы (галоўныя цэрквы ў горадзе) былі не толькі культавымі, але і грамадскімі памяшканнямі. За іх каменнымі сценамі хаваліся архівы, бібліятэкі, багацці дзяржаўнай скарбніцы. У гарадскіх храмах і каля іх адбываліся важныя грамадскія сходы, веча. У цяжкія гадзіны гісторыі горада, калі яго прыступам бралі ворагі, саборы і цэрквы рабіліся апошнім пунктам абароны. Галоўны храм (сабор) быў сімвалам горада.

У 50-ыя гады XI ст. пры князю Усяславу Брачыславічу ў Полацку вырас Сафійскі сабор — самая старажытная каменная пабудова на беларускай зямлі. Полацк быў трэцім горадам усходніх славян пасля Кіева і Ноўгарада, дзе меўся Сафійскі сабор. Полацкая Сафія — сведка сілы і магутнасці полацкіх князёў у XI ст.

Тут была найбольш старажытная і багатая бібліятэка, а верагодна, і майстэрня, дзе перапляталі кнігі, аздаблялі іх пераплёты, малявалі абразы.

У XII ст. у перыяд феадальнай раздробленасці ўзнікае і распаўсюджваецца новы тып царкоўных будынкаў. Замест нешматлікіх, але грандыёзных збудаванняў з'явілася значная колькасць простых і сціплых пабудоў невялікіх памераў.

У першай палове XII ст. у двух кіламетрах ад полацкага дзядзінца Верхняга замка, на левым беразе Заходняй Дзвіны ўзнік Барысаглебскі, ці Бельчыцкі, манастыр. У ім выдатныя фрэскі ўпрыгожвалі не толькі сцены, але і адкосы акон. Роспіс кожнага акна быў своеасаблівым, пераважалі раслінныя арнаменты.

Другі бельчыцкі храм — маленькая Пятніцкая царква. Пад ёю размяшчаўся склеп-пахавальня. Каля ўваходу ў алтар была цудоўная фрэска князёў Барыса і Глеба.

Крыху пазней за Бельчыцкі ўзнік манастыр на беразе рэчкі Палаты, заснаваны Ефрасінняй у прыгарадным паселішчы полацкіх епіскапаў Сяльцо. Рэшткі царквы даследавалі археолагі ў нашы дні. Знойдзеныя тут пахаванні ў мураваных склепах сведчаць, што царква служыла працяглы час пахавальняй.

Побач з гэтай царквой-пахавальняй у сярэдзіне XII ст. па заказу Ефрасінні была пабудавана Спаская царква, якая дайшла да нашых дзён (перабудавана ў XIX ст.).

Будаваў Спаскую царкву полацкі дойлід Іаан — адукаваны чалавек з добрым мастацкім густам. Ён узначальваў арцель полацкіх будаўнікоў-муроўшчыкаў. Да яго звярталіся некалькі разоў, перш чым ён змог з'явіцца ў Сяльцо, каб будаваць Спаскую царкву. Вялікі вопыт будаўніка і добрыя арганізатарскія здольнасці дазвалялі яму ўзвесці будынак у вельмі сціслы для тых часоў тэрмін — за трыццаць тыдняў.

Спаская царква стаіць ля вытокаў новага тыпу культавых будынкаў. Задумы полацкага майстра атрымалі далейшае развіццё першнаперш у самім Полацку. Археолагі пераканаўча даказалі гэта. У 1967 г. на Верхнім замку былі адкапаны рэшткі царквы канца XII ст. Архітэктурны яе выгляд — вынік далейшага развіцця таго тыпу будынкаў, якія ўзводзіў славуты дойлід Іаан.

Полацкае дойлідства XII ст. было своеасаблівае і непаўторнае. Полацк — горад, дзе нарадзіўся новы тып манументальных будынкаў, выдатны цэнтр старажытнай культуры на Беларусі.

Каменныя царкоўныя пабудовы XII ст., апрача Полацка, існавалі ў Віцебску, Навагрудку, Тураве, Ваўкавыску, Гародні. Да нашых дзён захавалася Барысаглебская, ці Калажская, царква ў Гародні, якая мае свае асаблівасці. Яе сцены ўпрыгожаны ўстаўкамі з неапрацаваных і плоскіх валуноў, а таксама зялёнымі, жоўтымі і карычневымі паліўнымі пліткамі 16 розных тыпаў. У старажытнай Гародні існавала свая школа дойлідства.

Спаскай царкве Ефрасіння падаравала крыж з шасцю канцамі. Яго даўжыня складала 51 сантыметр, таўшчыня 1,5—2 сантыметры. Быў зроблены з трывалага дрэва — магчыма, кіпарысу. Да вонкавай і тыльнай паверхняў прымацавана па 11 залатых пласцін са шматлікімі эмалямі, 8 дарагімі авальнымі камянямі і жамчужнай абнізкай. З бакоў крыжа — пазалочаныя пласціны з серабра, на якіх выразаны доўгі надпіс. Найбольш каштоўнае ў крыжы — перагародкавыя эмалі з выявамі святых. Каб іх зрабіць, трэба было валодаць выключным майстэрствам. На вонкавым і тыльным баках крыжа на залатых пласцінах змешчана 20 выяў святых. Усе яны выкананы ў тэхніцы эмаляў з сінімі, чырвонымі, белымі, зялёнымі адценнямі.

Паводле хрысціянскай сімволікі і вучэння, выявы на сценах цэркваў і мастацкіх вырабах размяшчаліся ў вельмі строгім парадку. Невыпадкова размяшчэнне выяў і на крыжы Ефрасінні Полацкай. На яго вонкавай плоскасці тыповая іканапісная кампазіцыя. Зверху выява Ісуса Хрыста, крыху ніжэй — фігуры Іаана і Божай Маці, з правага і левага бакоў выявы архангелаў Міхаіла і Гаўрыіла, якія сімвалізуюць сілы нябесныя. На тыльнай плоскасці рэліквіі яшчэ 8 выяў «айцоў царквы». З выявамі святых чаргуюцца шматлікія арнаменты-эмалі.

Асаблівую ўвагу даследчыкаў прыцягнулі надпісы на крыжы. У першай частцы тэксту гаворыцца, што ў 1161 г. Ефрасіння падаравала крыж царкве Спаса заснаванага ёю манастыра. Золата, серабро, каштоўныя камяні і жэмчуг, якія выкарыстаны на крыж, каштуюць 100 грыўнаў, за працу ж заплачана 40 грыўнаў. У другой частцы надпісу запісаны праклён таму, хто знясе крыж са Спаскай царквы. На ніжняй пласціне адваротнага боку ёсць дробны надпіс з імем майстра Богшы (у хрышчэнні Лазара), які зрабіў крыж. Па сваіх мастацкіх якасцях і тэхніцы перагародкавых эмаляў полацкі крыж не саступае найлепшым узорам тагачаснага прыкладнога мастацтва, якія карысталіся сусветнай славай. З поўным правам яго можна назваць шэдэўрам — узорным творам сваёй эпохі. У 1940-ыя гады крыж знік.

Навука, якая вывучае старажытныя надпісы, зробленыя на прадметах, называецца эпіграфікай. На тэрыторыі Беларусі вядомы выдатныя помнікі эпіграфікі XII ст. — «Барысавы камяні». Да нашага часу ў рэчышчы Заходняй Дзвіны, за 5 кіламетраў ад Полацка, захаваўся адзін з іх — вялізны гранітны валун каля 8 метраў у акружнасці. На ім высечаны крыж даўжынёй больш за паўтара метра і надпіс з імем Барыса. Другі, яшчэ большы камень ляжаў у 40 кіламетрах на поўнач ад Полацка. Надпіс на ім захаваўся лепш: «Г(оспод) і помозі рабу своему Борису». Усяго ў рэчышчы Заходняй Дзвіны былі чатыры такія камяні. Вядомы яшчэ два камяні з іншымі надпісамі. Камяні са старажытнымі надпісамі былі і на сушы. Такі помнік эпіграфіі захаваўся ля вёскі Камена недалёка ад горада Вілейкі.

Вывучыўшы надпісы на чатырох камянях у рэчышчы Заходняй Дзвіны, вучоныя прыйшлі да згоды, што яны былі зроблены па загаду полацкага князя Барыса Усяславіча (памёр у 1129 г.). Магчыма, у часы барацьбы з перажыткамі язычніцкай рэлігіі князь загадаў выбіць крыжы і надпісы на тых камянях, якім з даўніх часоў пакланяліся язычнікі. Яго прыклад узяў сын Рагвалод-Васіль. У 1171 г. ён загадаў высечы надпіс на велізарным камяні вышынёй каля трох метраў. Гэты камень яшчэ нядаўна знаходзіўся каля вёскі Дзятлава на Аршаншчыне. Рагвалодаў камень — унікальны помнік эпіграфіі XII ст.

Пісьменнасць была распаўсюджана не толькі сярод прадстаўнікоў вышэйшага пласта грамадства. Яе ведалі і простыя гараджане. У час раскопак археолагі знаходзяць старажытныя рэчы, на якіх вострымі прадметамі надрапаны надпісы. Такія помнікі атрымалі італьянскую назву «графіці» (літаральна — надрапаныя).

Усе адкрытыя ў Беларусі графіці напісаны кірылаўскімі літарамі. На такой знаходцы з Віцебскай вобласці лёгка чытаецца тэкст: «бабино прясльнь», што значыць «бабіна прасліца»

Вялікая гліняная пасудзіна-амфара вышынёй у паўметра захавалася ў культурным пласце старажытнага Навагрудка. На амфары надрапана імя «Олекса».

На сцяне Сафійскага сабора ў Кіеве выяўлены надпіс XII ст.: «Воинег писал Журяговищь полоцянин». Жыхар Полацка, Воінег, наведаўшы сабор, вырашыў пакінуць на яго сцяне свой «аўтограф». Асабліва цікавае тут напісанне слова «полоцянин» праз літару «ц», што, бясспрэчна, сведчыць пра сугучнасць пісьма мясцовым беларускім каранням.

Выключную навуковую каштоўнасць маюць берасцяныя граматы. На тым баку бяросты, які прылягаў да дрэва, літары надрапвалі касцяной ці жалезнай палачкай — пісалам (сцілом). Ліст далёкага продка знойдзены ў Віцебску: Сцяпан просіць Няжылу, каб той прадаў адзенне і купіў «жыта за 6 грыўнаў». У 1980 г. фрагмент берасцяной граматы пачатку XIII ст. адкапаны ў г. Мсціславе. Захавалася два радкі. У першым гаворыцца пра пшаніцу на 4,5 грыўні, у другім — пра нейкага Сцяпана.

Раскопкі гарадоў у Беларусі далі каштоўную калекцыю шахмат XII—XIII стст. Гэта абстрактныя сімвалічныя фігуры, якія зроблены з косці ці рога з улікам усходніх узораў. Інакш выглядалі дэкаратыўныя шахматы. Кожная такая фігура — гэта мініяцюрная скульптура, у якой адлюстраваны жывыя назіранні разбяра. Знаходкі шахмат пацвярджаюць высокі ўзровень нашых старажытных гарадоў.

Створаная ў раннім сярэдневеччы матэрыяльная і духоўная культура стала грунтам для развіцця самабытнай культуры беларускага народа ў наступныя стагоддзі.

**Г. В. ШТЫХАЎ,**
**доктар гістарычных навук.**

## *Мама, пачытай!*

### Сядзіць мядзведзь на калодзе

**(з народнага)**

Сядзіць мядзведзь на калодзе,
Кантур вышывае,
А сыны-медзведзянятні



Шоўкам падшываюць.
Стары заяц-работнічак
На скрыпачцы грае,
А лісіца, а хітрыца
З куста выглядае.
А сарокі-белабокі
Пусціліся ў скокі.
А вароны, стары жоны,
Пайшлі жыта жаці.
А зязюля, а зязюлька
Жыта малаціла,
А карова, а карова
Жыта вынасіла.
Казёл меле, казёл меле,
Каза падсыпае,
А малыя казляняты
У мяшок збіраюць.
Муха месіць, муха месіць,
Камар ваду носіць,
А малыя камарочкі
У іх цеста просяць.

*Анатоль ПРОХАРАЎ*

### Мурашыная святліца

Над ялінаю ў цішы
Дом узводзяць мурашы.
Без рыдлёўкі і сякеры



Ім не трэба вокны, дзверы.
На вачах расце з ігліцы
Мурашыная святліца.
Цёплым сонцам
І смалою
Пахнуць новыя пакоі.

*Кастусь ЦВІРКА*

### Коцікі

За вёскай, за балоцінкі,
Ў галлі вярбы старой,
Маленечкія коцікі
Хаваліся зімой.
Мялі наўкол мяцеліцы,
Гулі ў кустах пустых,
Ды коцікі ў аселіцы
Не чулі нават іх.
Салодка спалі ў коўдрачках.



Чакаючы вясну.
Прыгрэла сонца шчодрае —
Збудзіліся ад сну.
Паскідвалі ўсе чысценька
Адзежыны з сябе
І, жоўтыя, пушыстыя,
Паселі на вярбе.

*Вольга ІПАТАВА*

* * *

Як ён завецца,
Гэты хлапчук?
Не хоча памыць ён
Ні шыі, ні рук.
Цукеркі і цацкі
Сабе ён грабе,
Нікога не любіць,
А толькі сябе.
Сяброў ён не мае,
Кніжкі — ірве.
А што не па ім —
Як бычок зараве.
Затупае ножкамі,
Вырвецца з рук.
Ці ведаеш, як той
Завецца хлапчук?





© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012



Фальклорны тэатр «Карагод» Палаца культуры Менскага тонкасуконнага камбіната ведаюць далёка за межамі рэспублікі. У склад яго ўвайшлі не толькі прафесійныя, а і самадзейныя артысты. У рэпертуары калектыву — беларускі фальклор, разнастайныя танцавальныя мініяцюры. І яшчэ адна асаблівасць «Карагода» — тут усе артысты адначасова і танцоры, і спевакі, і музыкі.

НА ЗДЫМКУ: выступае «Карагод».

Фота Уладзіміра ШУБЫ.
Белінфарм.




## ЗАКОНЫ ЖЫЦЦЯ ЖЫВЁЛ

*(Працяг. Пачатак у № 5).*

Аб значэнні фізічнай актыўнасці для здароўя мы можам таксама меркаваць,назіраючы за жывёламі. Асабліва актыўна паводзяць сябе маладыя, тыя ж шчаняты або кацяняты, што ўвесь час бегаюць, скачуць, лазяць, вывучаюць навакольнае асяроддзе. У сталым узросце актыўнасць у жывёл зводзіцца да пошукаў корму і абароны сябе і свайго патомства ад нападу ворагаў. І адным з ідэальных відаў фізічнай трэніроўкі было б агародніцтва ці садоўніцтва, занятак, пры якім чалавек становіцца падобным да жывёлы, што бадзяецца ў пошуках ежы. З назіранняў за жывёламі мы ведаем, што перыяд адпачынку ў іх — гэта час перад актыўнай дзейнасцю. Мы ведаем таксама, што падскурны слой тлушчу ў жывёл патаўшчаецца з надыходам халадоў і становіцца танчэйшым з надыходам вясны. Чалавек таксама мяняе адзенне ў залежнасці ад сезона. У розныя поры года арганізм павінен прыстасоўвацца да навакольнага асяроддзя, беспамылковы інстынкт прымушае жывёл мяняць састаў ежы. Яны не разборлівыя, ядуць тое, што падрыхтавала для іх прырода. Напрыклад, усе самкі птушак інстынктыўна вызначаюць, што ім патрэбна вапна для фармавання шкарлупы яек. У сезон злучкі яны збіраюцца разам у месцах знаходжання водных малюскаў, ідучы шляхам, падказаным самой прыродай.

*Гісторыя ў анекдотах*

*Л. Р. КАЗЛОЎ*

# «З дазволу караля і Вялікага князя»

### ПРЫПРАВА ДА ГУМАНІЗМУ

*(Працяг. Пачатак у №№ 1, 2, 4).*

Рэнесанс, Адраджэнне, гуманізм... Гэтыя паняцці добра вядомы і ў нашай гісторыі, іх звычайна звязваюць з часамі панавання апошніх двух Ягайлавічаў — Жыгімонта Старога і Жыгімонта Аўгуста. Але заўважце, у Італіі ў герцагствах і рэспубліках, якія там існавалі, адраджалася тое, што ўжо некалі было ў старажытных Грэцыі і Рыме. А для іншых краін, напрыклад, пра якія ў нас гутарка, то, шчыра кажучы, тут адбывалася Нараджэнне. Нараджэнне нечага зусім новага, чаго ў гэтых мясцінах і блізка не назіралася. Але хай сабе будзе Адраджэнне, Залаты век і іншыя карысныя з'явы. Невядома, ці называў сябе «адраджэнцам» альбо «рэнесансістам» наш славуты Францішак Скарына, а што гуманістам ён быў, гэта сумнення не выклікае.

Гуманізм найбольш наглядна праявіўся ў простых людскіх адносінах. Чалавек менш стаў пазіраць на нябёсы, а больш аглядацца вакол сябе. Ён падабрэў і смялей выказваўся адносна свайго калегі, разлічваючы на такую ж дабрату і разуменне. Але галоўнае — акрыяла і паступова распаўсюджвалася пачуццё гумару. Вось тут і адыгралі сваю выдатную ролю выцягнутыя з самых разнастайных, цудам уцалелых крыніц антычныя анекдоты. Аднавіліся класічныя сюжэты з галоўнай дзеючай асобай — чалавекам. Не, не проста безыменным чалавекам, а гістарычнай персонай.

Крыху пазней, мо напрыканцы Залатога веку, у нас з'явіўся, бадай, самы першы збіральнік анекдотаў і розных забаўных гісторыек Беняш Будны. Хаця пра асобу гэтага «калекцыянера» вядома яшчэ не вельмі шмат, але ягоныя «Апафегматы» сталі шырока вядомымі і ў той, і ў больш позні час. Нават апынуліся сярод першых друкаваных грамадзянскім шрыфтам расійскіх кніжак часоў Пятра І, але гэта ўжо значна пазней. У часы ж беларускага Адраджэння «Апафегматы» друкаваліся ў Вільні, у Любчы (непадалёк ад Навагародка) у вядомага друкара Пётры Бластуса Кміты і ў Кракаве.

Аднак вернемся да нашых аўгусцейшых асоб. Колькасць іх павялічваецца. Ды і побач з каралём і вялікім князем усё часцей мільгаюць іншыя прадстаўнікі «вышэйшага свету», якія таксама размножыліся. Узрасла, і гэта важна, цікавасць да слова, пісанага і друкаванага. Звычайнай справай становіцца перапіска паміж людзьмі, і кожнаму ахвота паведаміць нешта інтрыгуючае, даведацца штосьці цікавае. Асабліва, калі гаворка заходзіла пра загадкавы, маладаступны для назірання, бо высока пастаўлены, экзэмпляр чалавечае пароды.

Невядома, як доўга прыстасоўваліся б жыхары Кароны і Вялікага княства да Рэнесансу, калі б Жыгімонт Казіміравіч не ажаніўся другі раз — з Бонай, дачкой міланскага герцага Джавані Сфорца. Яна не толькі нарадзіла каралю гуманістычнага наследніка Жыгімонта Жыгімонтавіча, але шмат на што завяла новую моду. Кароль-бацька проста млеў ад радасці з нагоды такіх падзей. З негаваркога і ўраўнаважанага манарха ён ператварыўся ў дасціпнага чалавека. Праўда, яго італьянская жонка не забывалася нагадваць яму пра карону на галаве. Кажуць, ён меў добрае сэрца, чым звычайна любяць пакарыстацца розныя энергічныя тыпы.

*Перад абедам кароль Жыгімонт мыў рукі, зняўшы свае пярсцёнкі, якія даў патрымаць дваравіну, што абслугоўваў яго вялікасць падчас туалету. Разважаючы ў думках аб розных справах, кароль забыў пра тыя пярсцёнкі і ні ў гэты дзень, ні пазней не ўспамінаў пра іх. Дваранін зрабіў вывад, што Жыгімонт, відаць, зусім не памятае, дзе падзеліся яго каштоўнасці, а паколькі пры двары ацірaецца столькі людзей, то і не трэба аб гэтым напамінаць.*

*Праз нейкі час той жа дваранін зноў прыслугоўваў каралю. Але Жыгімонт, на руках якога красаваліся ўжо іншыя пярсцёнкі, і не падумаў іх здымаць. А на недаўменны погляд свайго «асістэнта» сказаў: «Для вас дастаткова тых, што вы ўзялі раней, а гэтыя могуць спатрэбіцца каму іншаму».*

*Па старым звычаі кароль і вялікі князь Жыгімонт час ад часу наведваў Літву, дзе цешыў сябе паляваннем. Асабліва ён любіў назіраць за тым, як сабакі змагаюцца з мядзведзем. Аднойчы падчас такой сцэны пан Халецкі, староста чаркаскі, што стаяў каля яго вялікасці, здзівіўся, што сабакі чамусьці без асаблівага жадання ідуць на звера.*

*— Відаць, іх занадта абкармілі перад гэтым,— выказаў меркаванне кароль,— таму і не бяруць яго.*

*— Тады, найяснейшы пане, — параіў староста,— пусці на мядзведзя сваіх пісараў, бо як яны ні аб'ядаюцца, а ўсё бяруць і бяруць.*

*(Працяг будзе).*

## На увалях БТ

**10 ЛЮТАГА**

18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».
19.50. Памежжа. Беларусь — Літва.
22.20. Студыя «Тэлесябрына». Калядкае рэха.
23.25. НІКа.

**11 ЛЮТАГА**

16.40. Тэлебачанне — школе. Прыродазнаўства. III клас. Белавежская пушча.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
20.25. Тыдзень беларускага ўрада.
23.20. НІКа.

**12 ЛЮТАГА.**

17.10. Для дзяцей. «Жывая мова». СШ № 118 г. Менска.
18.30. Навіны Бі-бі-сі.
19.10. Студыя «Тэлесябрына». «Я ад вас далёка...»
20.15. Гаворым па-беларуску.
23.10. НІКа.

**13 ЛЮТАГА**

10.00. Паказвае Брэст. Мастацка-публіцыстычная праграма.
18.40. «Песню бярыце з сабою».
19.40. Вечар у Доме літаратара. Сустрэча з паэтамі М. Пракаповічам і А. Каско.
23.25. НІКа.

**14 ЛЮТАГА**

13.30. Студыя МЭТА. Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі. Мастацтва XII—XVII стагоддзяў.
19.00. «Песню бярыце з сабою».
23.20. Каралеўскае паляванне. Шоў-казіно.

## Афарызмы

*Петар ЛАЗІЧ*

**Магутны, як леў, мудры, як сава, непахісны, як дуб. А ці ёсць у Вас хоць штонебудзь чалавечае?**

**Мы змагаліся за лепшае жыццё нашых дзяцей, а цяпер і чужыя дзеці хочуць жыць лепей.**

**Мне падабаецца Ваш «Мысліцель», пане Радэн. Толькі галаву яму трэба было б зняць, бо ўздзейнічае надта змрочна.**

**Трэба, каб і далей нас вялі тыя, што блукалі. Яны найлепш ведаюць мясцовасць.**

**І непрыяцелі пачалі нам дапамагаць, калі зразумелі, што мы будуем.**

**У адрозненне ад Сізіфа мы не спадзяёмся на выпадковасці. І ўгару і ўніз цягаем усё самі.**

**Шмат зрабілі мы для заняволеных народаў свету. Як паглядзяць на нас, адразу лягчэй ім робіцца.**

**А сёмага дня Бог схапіўся за галаву.**

Пераклаў з сербскахарвацкай
Іван ЧАРОТА.

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Наклад 8435 паасобнікаў.
Зак. 258.

Падпісана ў друк 8.02.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3

© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012